Год V. 1927 ЛІСТАПАД Кніжка 9-ая






## Першы Беларускі Месячнік Сельскай Гаспадаркі.

### Зьмест:

| | ст. |
|---|---|
| Шкоднасьць спасваньня руні . . . . . . . | 1 |
| Як я атрымаў у год два ўраджаі . . . . . | 2 |
| Каза — кароўка бедняка . . . . . . . . . | 3 |
| Як карміць кароў (канчатак) . . . . . . . | 4 |
| Як з саломы зрабіць добры корм . . . . . | 7 |
| Залзы . . . . . . . . . . . . . . . . . . | 9 |
| Колікі („чэмэр, мышкі“) . . . . . . . . . | 10 |
| Абманы гандляроў коньмі . . . . . . . . | 12 |
| Парады агранома . . . . . . . . . . . . | 14 |
| Сельска-гаспадарчая хроніка . . . . . . . | 15 |
| Біржа. | |

Друк. Я. Левіна Вільня, Нямецкая 22.

## Цэны ў Вільні 22-га лістапада 1927 г.

| | Злот. |
|---|---|
| **Збожжа:** | |
| Жыта за 100 кіл. . . . | 41—42 |
| Авёс новы „ . . . | 43—45 |
| Ячмень броварны . . . | 43—46 |
| „ на кашу . . . | 39—41 |
| **Мяса:** | |
| Валовае за 1 кіл. . | 2,70—2,80 |
| Бараніна 1 „ . | 2,30—2.70 |
| Сьвініна 1 „ . | 3,30—3,60 |
| **Птушкі:** | |
| Курыца . . 1 шт. | 3,00— 6,00 |
| Піськляты . „ | 2,00— 3,00 |
| Качкі жывыя „ | 5,00— 6,00 |
| „ бітыя „ | |
| Гусі жывыя „ | 12,00—15,00 |

| | Злот. |
|---|---|
| Гусі бітыя 1 шт. | |
| Індыкі жывыя „ | 18,00—22,00 |
| „ бітыя „ | |
| **Цэны на рынку.** | |
| Саланіна тутэйшая | |
| . . . . . . 1 гат. | 4,30—4,50 |
| . . . . . . 2 гат. | |
| Малака . за 1 літр | 0,50—0,60 |
| Сьмятана „ | 2,20—2,30 |
| Тварог . . . . . . | 1,20—1,50 |
| Сыр . . . . . . . . | 1,90—2,10 |
| Яйкі . . за 10 шт. | 2,30—2,50 |
| Бульба . за 1 кіл. | 0.14—0,17 |
| Цыбуля „ | 0,40—0,50 |
| Капуста сьвежая . | 0,25—0,30 |

1 даляр . . . . . . 8,86—8,85

Рублі зал. . . . . . 4,74—473

---

**ПАДПІСНАЯ ПЛАТА** ад 2-га нумару (1-шы разышоўся) да канца гаду 2 зл. 25 гр.

**Падпішчыкі будуць атрымліваць часопісь тольні па перасылцы платы.**

**Адрэс рэдакцыі:** Вільня, вул. сьв. Анны, д. № 2, кв. 3.

# САХА

Першы Беларускі месячнік сельскай гаспадаркі.

## Шкоднасьць спасваньня руні жывёлай.

У нашых сялян істнуе абмылковы погляд, што спасваньне руні азімых хлябоў увосень добра адбіваецца на ўраджаю. Гэту думку ў нашых земляробаў усяляюць тыя абставіны, што буйна зрастаючая рунь часта выходзе вясной з-пад сьнегу пажаўцеўшай, ці пабурэўшай.

Гэтыя зьявішчы сустрэкаюцца ў нас больш усяго на добрых землях, дзе яшчэ жыта і пасеяна рана.

Рунь буйна зрастае, а калі стаіць цёплая і выгадная восень, дык бывае небясьпека, каб жыта ўвосень не пачало каласіцца, ці як кажуць: „пусьцілася ў стрэлку“. Ад такога жыта добрага ўраджаю ня трэба спадзявацца, бо каласкі ад марозаў згінуць.

Калі ўвосень выпадзе сьнег на незамёршую зямлю, дык карэнчыкі расьліны яшчэ і пад сьнегам неякі час пасылаюць свой пасілак да зялёных лісткоў, ці інакш кажучы, расьлінка яшчэ жыве. Для свайго жыцьця яна патрабуе паветра, якога як-раз ня пушчае выпаўшы сьнег. Дык вось ад гэтага рунь душыцца, а лісточкі ад адсутнасьці паветра жаўцеюць ці бурэюць,

Чым лепшая рунь папала пад сьнег, тым больш яна глуміцца, бо буйнейшыя расьлінкі патрабуюць для свайго жыцьця і больш паветру. Нашы сяляне, спасваючы скацінай увосень рунь, а месцамі скашваючы, гэту патрэбнасьць расьлін ў паветры часткаю зьменшваюць.

Паўстае пытаньне: „ці лепш рунь пасьціць, ці касіць“?

За адказам на гэта пытаньне мы зьвярнёмся да самае расьлінкі.

Раскручваючы асьцярожна лісток за лістком кусьцік руні, мы знойдзем ў сярэдзіне яго, чуць вышэй грунту, маленькі пачатак будучага коласа. Калі гэты каласок будзе з'едзен жывёлаю, ці яго сашчыкне, або здратуе, а таксама касой зачапіць, дык з такога пачатку ніколі добры колас ня вырасьце і добрага ўраджаю спадзявацца нельга.

Наша скаціна гэтыя пачаткі каласкоў дратуе, топча, а коні і авечкі, нізка сазкубваючы расьлінку, зусім паедаюць іх.

Дык вось цяпэр становіцца зразумелым, што спасваньне руні жывёлай—гэта ёсьць згуба для нашага земляроба. Калі трэба стрымаць буйны рост руні, лепш яе касіць і то асьцярожна, толькі самыя вярхі, каб часам не пакалечыць маладыя, тольк-што зарадзіўшыяся пачаткі каласкоў.

**Тутэйшы Аграном.**

---

## Як я атрымаў ў год два ўраджаі.

Прыходзілася чуць шмат ад каго пра карысьць культуры сэрадэлі, якую сьвядомыя гаспадары называюць канюшынай пяскоў. Пачаў цікавіцца гэтай расьлінай і я, але яна ў мяне не ўдавалася. Пробаваў я яе сеяць адну — дзікая трава глушыла, высяваў вясной па жыце, разам з ярыной — таксама вынікі былі слабыя. Я пакінуў цікавіцца гэтай расьлінай, думаючы, што яна не падыходзіць для нашых земляў.

Сёлета даведаўся цераз „Саху" ў Парадах Агранома, што сэрадэля на новым месцы расьці не заўсёды любіць. Зьвярнуўся за парадай да рэдакцыі нашае чпсопісі, адкуль атрымаў наступны адказ:

„Калі жадаеце пасеяць сэрадэлю ў сёлетнім годзе па жыце, дык трэба яе высяваць як мага раней, пакуль зямля вільготная. Раз на тым месцы сэрадэля перш ня сеялася, дык раіцца „заразіць" зямлю мікробамі [1]) якія знаходзяцца ў зямлі, дзе раней расла гэта расьліна. Заразіць ніву гэтымі мікробамі можна альбо навозкай зямлі з-пад сэрадэлі, або карэнчыкамі яе, дзе таксама жывуць гэтыя бактэры. Калі гэту работу будзеце выконваць, дык трэба помніць, што мікробы сэрадэлі баяцца сонечнага сьвету, дзеля чаго заражаць зямлю імі нада ў хмурную ці дажджлівую пагоду. Для практыкі, калі маеце ахвоту, пакіньце адзін шнур бяз прышчэпкі і аб выніках напішэце ў рэдакцыю. Сэрадэля любіць лёгкія землі".

Быў прысьвятак, які ў нашае вёсцы сьвяткавалі. Ціханька ад сям'і, каб апошняя ня сьмяялася, нарваў я карэнчыкаў серадэлі (сеялі яе ў мінулым годзе) і раскідаў яе па жыце, дзе была пасеяна нядаўна сэрадэля. Вечарам, пасьля хмурнага дня пашоў дождж. Я спалохаўся, каб гэта не пашкодзіла маім „маленькім дабрадзеям", але ўспомніў, што як-раз дажджлівая пагода спрыяе маей працэ. Для кантролю, па жаданьню рэдакцыі „Сахі", пакінуў адзін

---

[1]) Мікробы можна прыкмеціць толькі цераз шмат пявялічваючае шкло. Гэта ёсьць маленькія жывыя істоты, якія жывуць на карэнчыках бабовых расьлін і дапамагаюць ім улаўліваць каштоўны складнік спажывы — азот.

шнур (усяго пад сэрадэляй былі тры), па якім карэнчыкаў сэрадэлі не раскідваў.

Прышла пара жаць жыта. Адзін раз вечарам бацька мяне пытае; Міхась, чаму гэта на сярэднім шнуру, што проціў „логавішча" сэрадэля прапала, бо на 3-м і 5-м яна відаць зьбярэцца". Тут толькі прызнаўся, якую я зрабіў „штуку".

З гэтага часу мой бацька ня толькі чытае „Саху" і іншыя сельска-гаспадарчыя кнігі, але не мінае кожнага больш-сьвядомага гаспадара, каб не расказаць яму, якую вікунуў „штуку" яго „штукар" Міхась.

Як прышла пара касіць, дык шнуры з прышчэпленай зямлёй далі па калесьніку сэрадэлі, а бяз прышчэпкі—два пласты.

Пішучы гэтыя радкі, ня магу не падзякваць рэдакцыі „Сахі" за парады, якімі яна стрымала брахню некаторых несьвядомых нашых гаспадароў, якім здавалася, што навука ствараецца не для іх. Гэты прыклад, думаю, прымусіць гаспадароў больш уважліва сачыць за сельска-гаспадарчай літэратурай, якую ня шкодзіла-б усім, кахаючым нашу пакуль цёмную і сьпячую старонку, распаўсюджваць. Тады, як кожная вёска, а лепш кожны гаспадар будзе мець на вакне сваю часапісь, мы хутчэ зьнішчым наша ўбоства.

**Міхась.**

в. Гароднікі.

---

# Каза — кароўка бедняка.

Каза сярод нашага сялянства не карыстаецца пашанай. На казу глядзяць як на брыдкую жывёлу, якую шмат дзе саромяцца гадаваць. Нашы сяляне часта спатыкаюць гэту жывёлу няпрыязна і па яе адрэсу адпускаюцца насьмешкі.

Чаму ?

А таму, што нашы земляробы не ўяўляюць сабе ясна пра тую карысьць, якую дае гаспадару гэта не каштоўная маленькая жывёленка.

Малако казы тлустае, смачнае і здаровае. Дзецям, сухотнікам, малакроўным і іншым хворым людзям малако казы раюць піць доктары.

Культурныя дзяржавы на Заходзе ўжо даўно сазналі карысьць казы і за апошнія дзясяткі гадоў зьвярнулі ўвагу на гадоўлю коз і ўсімі сіламі стараюцца гэтыя думкі пашырыць паміж бяднейшага сялянства. Перад вайной уваднэй Нямеччыне лік козаў узрос да 10 мільліёнаў, у той час як авечак гадуюць усё менш і менш.

У Швайцарыі, дзе жывёлагадоўля слыне на ўвесь

сьвет, казе ў гаспадарцы адвялі пачэснае месца. Там вырахвана, што на ўтрыманьне аднэй каровы мо' ідзе стольki пошару і клопатоў, колькі на 8 штук коз. А такі лік козаў дае куды значнейшую карысьць, як адна добрая карова. Лічачы, што адна каза ў сярэднім дае 45 вёдзер малака, а карова—120, будзем мець 250 вёдзер прыбытку ад аднаго малака.

Апрача гэтага, замест аднаго цяляці ад каровы, ад 8 козаў будзе ня менш як 12 казьлянятаў, каштуючых куды больш, як адно цяля.

Мяса казы ня горшае кароўяга, а казьлят куды смашней і каштуе даражэй. З скуры казьлят і козаў вырабляюць найдалікатнейшую лайку ды саф'ян. З шэрсьці козаў робяць багатыя тканіны. Козі гной у гаспадарцы займае першае месца.

Козаў асабліва выгадна гадаваць у гарыстых мясцох, на выганах, паросшых сухой травой. Козы ахвотна жуюць галінкі, абгрызаюць лісточкі ад усялякіх кусьцікаў.

Але, хаця каза і не пераборлівая на яду, але чым мы дамо ей лепшы дагляд, тым і вялікшая ад яе будзе карысьць.

На пачатак мы павінны зьвярнуць увагу на мясцовыя гатункі козаў і на племя выбіраць расьлейшых і складнейшых.

Злучаць козы трэба не маладзей 8 месяцаў; час злучкі прыпадае з жніўня да лістапада. Казлы здатны па племя бываюць да 6 гадоў, а каза—10 гадоў. Носіць каза 154 дні. Каза доіцца ад 6-ці да 10 месяцаў. З малака казы вырабляецца добры казіны сыр, але масла казінае горшае ад кароўяга.

У апошнія часы на гадоўлю козаў зьвярнулі ўвагу і нашы перадавыя сяляне. Пажадаем гэтаму толькі пасьпеху.

**Селянін бядняк.**

---

# Як карміць кароў.

(канчатак)

Яшчэ ў 1870 г. Данія была беднай старонкай, дзе як і ў нас цяпер, прадавалі, галоўным чынам, толькі хлеб і пасьля таго, як ён перастаў радзіць, датчане пачалі шукаць выхаду з гэтага стану і знайшлі яго досыць проста. Яны пачалі сеяць кармавыя кораньплоды, травы, ад чаго палепшылі харч каровам, а апошняя стала больш даваць малака, і масла, і датчане сталі ад яе багацець. За Даніяй пашлі і іншыя народы, як шведы, фіны, латышы, эстонцы

і інш. Астаецца цяпер і нам, беларусам,ісьці за ёю, хоць і пазьней ад усіх, але лепей позна, чым ніколі.

Трэба і нам пачынаць не з таго, каб завадзіць толькі пародзістых кароў і думаць, што яны будуць даваць шмат малака і пры дрэнным кармленьні і ў халодным хлеве. Гэта абмылка. Зразу трэба зрабіць палепшаньне жывёлагадоўлі, як гэта рабілі датчане. Трэба назапасіць кармоў, пацяпліць свае хлявы, зрабіць іх сьветлымі, адным словам перш трэба зрабіць тыя умовы, пры якіх толькі можна чакаць, што наша жывёлагадоўля нас абагаціць, як абагаціла датчан.

Але каб палепшыць нашу жывёлагадоўлю і выйці на шлях, які вядзе да дабрабыту, нам трэба больш сеяць кармавых траў і караньплодаў, хаця-б прышлося паменшыць плошчу пад засевам хлябоў, завадзіць больш скаціны, аб'яднацца ў кооэрацыйныя арганізацыі для збыту малочных і іншых прадуктаў. У гэтым напрамку нашы гаспадары павінны пайсьці па дарозе да той культуры, да якой 50 гадоў таму назад ішлі датчане і да якой ужо даўна прышлі.

Практыкай і навучнымі дасьледамі даведзена, як адзін корм можна замяняць другім; для гэтага ўмовіліся абабраць неякую велічыню — **кармовую адзінку**. Велічыня кармовай адзінкі у Даніі складаецца з мяшанкі $\frac{1}{3}$ фунта пшанічных высевак $\frac{1}{3}$ фунта аўса і $\frac{1}{3}$ фун. сланечнікавае макухі. На Беларусі (Усходняй) лічаць за кармоваю адзінку 1 ф. сярэдняга аўса. Гэтыя вялічыні, як адзін ф. мяшанкі, гэтак 1 ф. сярэдняга аўса роўназначны. Другіх кармоў на 1 кармовую адзінку трэба браць паасобна гэтулькі (табліца прыблізная).

| | | | |
|---|---|---|---|
| 1 карм. адзінка | $5\frac{1}{2}$ | ф. | травы з пашы |
| | 5—6 | ф. | травы скошанай |
| | 6 | „ | канюшыны зялёнай |
| | 8 | „ | выкі зялёнай |
| | 10—11 | ф. | бацьвіня рознага |
| | $2\frac{1}{2}$—3 | „ | сена сухадолаў |
| | 3—6 | „ | сена балотнага |
| | 2—$2\frac{1}{2}$ | „ | сена канюшыны |
| | $3\frac{1}{2}$ | „ | саломы яровай |
| | 5—6 | „ | саломы азімай |
| | 4 | „ | саломы гароху і выкі |
| | $\frac{1}{2}$ | „ | ільнянага семя |
| | $1\frac{1}{2}$ | „ | пшанічны высеўкаў |
| | $1\frac{3}{10}$ | „ | жытніх высеўкаў |
| | $2\frac{1}{2}$ | „ | мякіны аўсянай |
| | $3\frac{1}{2}$—4 | „ | бульбы |
| | 7 | „ | морквы |
| | 12 | „ | кармавых буракоў буйных |

| | | | |
|---|---|---|---|
| 1 карм. адзінка | 8 | „ | кармавых буракоў дробных |
| | 12 | „ | турпэнсу (кармавая рэпа) |
| | 8/10 | „ | ячменю (зярнё) |
| | 1 | „ | аўса |
| | 7/10 | „ | кукурузы |
| | 8/10 | „ | жыта |
| | 7/10 | „ | пшаніцы |
| | 8/10 | „ | бобу, гароху, выкі |
| | 1 | „ | сухой брагі |
| | 1 1/2 | „ | соладу |
| | 1 3/10 | „ | каняплянай макухі |
| | 10 | „ | хлебнай брагі |
| | 8/10 | „ | добрай ільняной ці слапэчнікавай макухі. |

Як-жа карміць кароў? Кормяць кароў тым кормам, які маецца ў гаспадарцы і дакупляецца тое, чаго не хапае для правільнага кармленьня. Правільна мы будзем карміць тады, калі ўявім сабе, што пры кармленьні адным сільным кормам (зярнём і інш.), жывёла адчувае як быццам голад, бо корм у мэтах поўнага яго выкарыстаньня мусіць запаўняць жывот і кішкі жывёлы і не павінен хутка праходзіць цераз страўны шлях каровы.

Шкодна кармленьне і адным грубым кормам (саломай), які ня толькі што ня можа поўнасьцю выкарыстацца жывёлаю, але расьцягваючы жывот і кішкі, бывае часта прычынай розных хваробаў. Толькі разумнай сумязьзю абыйместага і сільнага кармоў можа дасягнуць правільнага, а разам і таннага кармленьня. Вопыты і практыка ў гэтым напрамку паказалі, што абыйместага корму можна даваць на 1000 фун. жывой вагі ад 20—30 ф. у дзень.

Далей дазнана, што дарослая карова патрабуе для свайго жыцьця ў дзень 8 кармавых адзінак, а летам, калі жывёла ў руху 9, ці на кожныя 3 пуды жывой вагі 1 кармавую адзінку. Таксама цельнай карове трэба дадаваць на рост цяленка 1—2 адзінкі.

Каб карова дала малако, рахунак вядзецца так: на кожныя тры фунты малака даюць карове адну кармовую адзінку.

Ведаючы кармовую вартасьць кармоў, колькі трэба карове на падтрыманьне свайго жыцьця і прадуктыўнасьць яе, можна саставіць кармавую штодзёную норму. Напрыклад, гаспадарка мае гэтакія кормы: сена сярэднай якасьці, азімая салома, яравая салома, сена-канюшына, салома выкі, бульба і кармавыя буракі. Як саставіць дзенную норму для каровы 21 п. жывой вагай і пры ўдойнасьці 20 ф. малака? Для падзяржаньня жыцьця карове патрэбна 7 кармав.

адзінак і для прадуктыўнасьці 7 адзінак (на кожныя 3 п. вагі 1 карм. адз. і на 3 ф. малака таксама 1 кармав. адз.), Усяго 14 адзінак. Датчане абыйместага корму дойнай карове не даюць больш 15 ф. у дзень. У нас-жа на першы пачатак будзем даваць 25 ф. Цяпер калі будзем даваць карове

| | | | | |
|---|---|---|---|---|
| 2½ | ф. | сена | — — — — 1 | карм. адз. |
| 2 | „ | сена канюшыны | — 1 | „ |
| 7 | „ | яравой саломы | — 2 | „ |
| 5 | „ | азімай саломы— | — 1 | „ |
| 3½ | „ | бульбы | — — — — 1 | „ |
| 8 | „ | буракоў | — — — 1 | „ |
| 28 | ф. | — — — — — — | — 7 | карм. адз. |

Для правільнае нормы у нашым прыкладзе не хапае 6 кармавых адзінак, якія можна замяніць толькі сільнымі кормамі, як напр. аўсом, ільняным семям ці якой небудзь мукой. Калі мы гэтага ня зробім, дык наша карова перастане даваць малако, а пры яшчэ бяднейшым корме яна ня можа дастаць спажывы для падзяржаньня свайго цела і худзее. Да гэтага трэба дадаць, што на цялё з трэцяга месяца цельнасьці каровы да шостага падбаўляюць па ½ корм. адзінкі, а з шостага месяца па 1 цэлай адзінцы.

Як мы бачым, што для правільнага кармленьня трэба ведаць жывую вагу каровы. Вызначаць яе можна абмерам даўжыні жывёлы ад пачатку хіба да хваста і таўшчыні за лапаткамі ў вяршкох. Гэтыя дзьве лічбы перамножаць, а потым падзяліць на 40; тады жывую вагу будзем мець ў пудох (прыблізна). Напрыклад, даўжыня нашай каровы ад пачатку хіба да хваста 24 вяршкі, а таўшчыня за лапаткамі 30 вярш. Перамножаўшы 24 на 30, будзем мець 720 ф. ці 18 пуд. Гэты спосаб для маладой каровы не падходзіць.

Вось як датчане робяць. Трэба і нашаму селяніну пайсьці па гэткім шляху, і тады наша вёска стане такой-жа багатай, як і дацкая.

---

## Як з саломы зрабіць добры корм.

У сялянскіх гаспадарках самым пашыраным кормам для кароў зьяўляецца яравая салома. Яе даюць сечкаю, або трушанкаю (з сенам). Кожны гаспадар добра ведае, што яравая салома ёсьць лепшы корм чым жытняя, але горшая, чым сена. Каб параўнаць іх кармавую вартасьць, мы даём табліцу спажыўных матэрый у сухім корме ў % %.

| | Белкавіны. | Дравясіны. | Крахмалу. | Жыроў |
|---|---|---|---|---|
| Сена . . . . . | 9,7 | 26,3 | 4,4 | 2,5 |
| Яравая салома | 4,0 | 40,0 | 3,5 | 2,0 |
| Азімая салома | 3,0 | 44,0 | 3,3 | 1,0 |

З гэтае табліцы бачым, што салома мае шмат дравясіны, якая дрэнна паддаецца траўленьню, і мала белкавіны і жыроў. Каб зрабіць салому добрым кормам, трэба, каб яна лепш пераварвалася жывёлаю. Для лепшага яе скарыстаньня ёсьць два способы папярэдняй падрыхтоўкі саломы ў корм — **мэханічны і хэмічны**.

З першым спосабам большая частка сялян знаёма. Ён зьяўляецца ў тым, што салому рэжуць на сечку. Сечка паапнна быць даўжынёю ў 5-6 см. Больш дробная сечка дрэнна пераварваецца і забруджвае жывот.

Хэмічны спосаб падрыхтаваньня саломы можа быць **цёплым і халодным.** Для сялянскіх гаспадарак падыходзіць больш **халодны спосаб.**

Над тым, як зрабіць з саломы добры корм, шмат працавалі вучоныя Нямеччыны. У часы імпэрыялістычнае вайны ў іх нават на фабрыках выраблялася, так званы моцны з саломы корм. Але хутка для фабрык не хапіла апалу і немцы сталі шукаць новыя мэтоды прыгатаваньня з саломы моцнага корму на холадзе або пры звычайнай тэмпэратуры.

**Халодны спосаб** быў найдзен нямецкім вучоным Бэкманам каля Бэрліну. Бэкманаўскі спосаб заключаецца ў наступным: бяруць скрыню, праз якую не працякае вада, ($1\frac{1}{2}$ мэт. даўжыні, 1 мэт. шырыні і 60 сант. вышыні). Насыпаюць сечку і мочаць яе ў $1\frac{1}{2}\%$ растворы едкага натру (прадаецца ў кожнай аптэцы). Пры чым бяруць на 100 кілёгр. сечкі 12 кілёгр. едкага натру, які распушчаюць у 800 літрах вады, або на 50 кілёгр. сечкі бяруць 6 кілёгр. едкага натру і 400 літраў вады. Пасьля таго, як сечка размокла, кладуць на яе дошкі з цяжарам, каб сечка была пад вадою. Праз 10-12 гадзін ваду зьліваюць у другую скрыню, у якой таксама зноў мочаць сухую сечку. Гэтым саставам можна карыстацца на працягу 2-3 тыдняў. Толькі час ад часу трэба зьліваць муць, якая асядае на дне. Так пратрыманую сечку трэба добра прамыць у чыстай вадзе каб ня было на ёй едкага натру.

Што часткі едкага натру не асталіся на сечцы, можна

праканацца лакмусовай паперкай (за 20 гр. у аптэцы яе даюць некалькі стужак). Калі апусьціць гэту паперку ў сырую сечку, у якой яшчэ астаўся едкі натр, дык ружовая паперка зробіцца сіняю. Гэта паказвае, што сечку яшчэ трэба мыць, пакуль паперка не астанецца ў сваім ружовым колеру.

У Нямеччыне рабілася шмат дасьледаў над жывёлай, якой давалі так падгатаваную сечку. Вынікі былі адны: што салома, намочаная ў растворы едкага натру, спажывалася на 72,8% а запараная сечка толькі на 45%. Такім чынам, даючы сечку па Бэкманаўскаму способу, можна даваць яе на 1/3 менш, чым звычайна даюць сяляне. Салома пры гэтым способе захоўвае прыемны пах і каровы яе ядуць многа ахватней, чым запараную. Таксама салома захоўвае свой ранейшы выгляд сэчкі.

Раючы гэты способ скарыстаньня саломы нашаму селяніну, мы спадзяёмся, што гаспадары, якія яго спрабуюць, будуць мець ад гэтага карысьць і пашыраць яго сярод сваіх аднавяскоўцаў.

Пры нястачы корму (саломы) адмаўляцца ад гэтага способу ня варта.

Ів. Атабекянц.

---

# Залзы (мыт).

Залзы — хвароба заразьлівая, на якую хварэюць больш усяго маладыя коні ў веку ад пал. г. да 5 гадоў. Пры залзах зьяўляецца катар дыхацельных шляхоў і гнойнае запаленьне залозак. Цераз 2 — 8 дзён, як конь заразіўся залзамі у яго сільна падымаецца тэмпэратура, зьяўляецца гарачка з кашлем. Конь перастае есьці, з носа пачынае выплываць бруд, які з часам цямнее і гусьцее. Залозкі паміж санак апухаюць, спачатку робяцца цьвёрдымі, гарачымі і балючымі, а цераз некалькі дзён мягчэюць і ў ваднным альбо некалькіх мясцох прарываюцца. Каб ускарыць прарыў гнаявіка, лепш яго прарэзаць, як ён разьмякне, вострым нажом і рану прамыць (сумязь крэаліну: 1 ложка на 1 літр вады).

У старэйшых коняў бывае, што залозкі паміж санак апухаюць, але скура на гэтым месцы не разрываецца. Пухліна трымаецца пару дзён, а потым сходзіць і хвароба мінае.

Пры правільным ходзе хваробы яна трывае 2—4 тыдні. Але часта, перадусім у маладых коняў, залзы ўскладня-

юцца і да іх далучаюцца іншыя хваробы. Тады можа наступіць сьмерць жывёлы ад абязсіленьня, або заражэньня крыві.

Каб да гэтага не дапусьціць, трэба з самага пачатку хваробы добра за жывёлай даглядаць: дзяржаць яе ў цёплай стайні, асвабадзіць ад працы, не паіць халоднай вадой і добра карміць.

Каб аблягчыць выхад гною, трэба даваць нюхаць пароў шпікунару. Для гэтага бяруць вядро гарачай вады, уліваюць туды ложку шпікунару і пар даюць нюхаць хвораму каню. У пухліну ўціраюць шэрую мазь, У бальшых аптэках прадаюць спэцыяльны парашок проціў гэтае хваробы (бяз рэцэпту). Гэты парашок даецца па ложцы 3 разы ў дзень. Найлепей парашок зьмяшаць з аўсом, а каб ён ня ссыпаўся на спод, трэба авёс абрызгаць вадой.

Калі хвароба зацягваецца і дамавыя лекі не памагаюць, трэба зьвярнуцца да вэтэрынара.

Як-жа асьцерагаць коняў ад залзаў?

Як ужо было сказана, што залзы — хвароба заразьлівая і выклікаецца бактэрыямі, якія выходзяць з брудам, што выцякае з носу хворага каня. Калі гэтыя бактэры пападуць у рот або да носа здаровае жывёлы, дык заражаюць гэту жывёлу на залзы. Заражэньне здаровае жывёлы можа наступіць, калі здаровы конь сутыкаецца з хворым. Пошар, паша, жалабы, збруя і навет самі людзі пераносяць гэту хваробу.

Калі мы гэта будзем помніць і асьцерагацца злучаць так ці інакш здаровых коняй з хворымі, дык часта можам не дапусьціць гэту хваробу да свайго каня.

Вэтэр. Ев. Б.

---

# Колікі (чэмэр, „мышкі").

Колікі найбольш частая хвароба ў коняй. За малым што палавіна ўсіх унутраных хвароб у коняй прыпадае на чэмер альбо колікі. Залежна ад тае прычыны, якая выклікае (колікі), іх падзяляюць: на 1) колікі ад прастуды, 2) колікі ад абкармленьня, 3) колікі ад цьвёрдага сухога калу, 4) колікі ад уздуваньня і 5) колікі ад рыбакоў.

Агульнае паміж усімі колікамі тое, што каню баліць жывот і што ён, як кажуць, „качаецца ад жывата". Хвароба гэта зьяўляецца адразу, зьнянацку. Здаровы конь адразу пачынае пераступаць, біць аб зямлю нагамі, стагнаць, ківаць

галавою і качацца па зямлі. Жывот часта ўздуваецца, вочы наліваюцца крывёю. Конь пачынае часта дыхаць, увесь час напінаецца, наглядае на жывот, а ні мача, ні кал у яго не адыходзяць.

Часта хвароба працякае вельмі хутка, і тады або ўсе адзнакі хваробы хутка мінаюць, або конь прападае пры страшэнных цярпеньнях. З гэтага ўжо відаць, наколькі колікі—хвароба небясьпечная і вымагае наглага паратунку.

Ратуючы ад колікаў, патрэбна адразу-ж апаражніць заднюю кішку ад калу. Дзеля гэтага руку паволі засоўваюць у задні праход і паступова спаражняюць кішку. А каб конь пры гэтым часамі ня выцяў, падымаюць у яго пярэднюю нагу, ці сьціскаюць абедзьве жылы на задніх нагах, альбо накладваюць каню так званую цыганскую закрутку на губы, ці на вуха.

Перад тым, як ачышчаць заднюю кішку, хвораму каню даюць на ачышчэньне жалудку, дзеля гэтага заліваюць у рот з фунт (400 гр.) глаўбэрскай солі (лепш распусьціць соль ня ў простай вадзе, а ў цёпленькім аўсяным адвары і дадаць туды яшчэ поўшклянкі алею), альбо даюць глытаць галку сабуру з мылам (сабуру поўасьмушкі фунта і крыху мыла). Чэрава каню расьціраюць шкіпінарам папалам з аліваю; пасьля расьціраньня каня ўкрываюць цёплаю і сухою папонаю. Калі пры гэтым каня абдувае, тады карысна даць яму 1-2 гарбатніх лыжачкі крэоліну, расьпусьціўшы яго ў бутэльцы летняй вады.

Апаражніўшы занюю кішку ад калу, робяць леватыну з мыльнае вады, дадаўшы да яе поўлыжкі кухоннае солі. Соль спачатку распускаюць у шклянцы гарачае вады і выліваюць у вядро з мыльнаю вадою. Гэткую леватыну робяць разы 2-3 з перарывамі, а на ачышчэньне даюць у сярдзіну яшчэ раз соль гадзіны праз 4-5, калі жывёлу да гэтага ня звольніць.

Хворага каня ўвесь час памалу водзяць і не даюць яму раптоўна кідацца на зямлю і шмат качацца, асабліва калі конь хварэе ад таго, што аб'есца, бо часамі ад качаньня па зямлі можа покнуць у яго жывот альбо зрабіцца заварот у кішках. Надварот, пры коліках ад уздуцьця нават добра, калі конь крыху і пакачаецца па зямлі, бо ад качаньня лягчэй адыходзяць у яго газы; а калі конь ляжыць, то карысна тады разьмінаць яму абдутае чэрава.

Звычайна канавалы ў такіх выпадках „кідаюць каню кроў“ альбо „душаць пад шыяй мышкі“, але гэта, вядома, памагае, „як кашаль хваробе“; конь яшчэ скарэй і горай

траціць сілы, дзякуючы гэтаму сьцягваецца час, а карысьці —ніякай.

Тое, што канавалы завуць „мышкамі“, ёсьць вопух сьлённае залозы каля вуха і ніякіх адносін да колікаў ня мае.

Трэба памятаць, што сваіх лекаў можа быць і мала, а дзеля таго найлепш завесьці каня адразу-ж да вэтэрынара.

Першыя дні па ачуняньні каню трэба даваць самае лепшае сена і некаторы час ня ўжываць да працы.

Як усцерагчыся ад колікаў. Каб усьцерагчыся ад колікаў 1) Трэба не даваць замнога ласага корму, асабліва гарачаму і зморанаму каню; 2) ня ўжываць паппсованага цьвілога, мёрзлага корму; 3) не даваць адразу шмат маладога аўса ці маладога сена, а даваць яго, прымешваючы патроху да старога; 4) наогул, ня можна раптам зьмяняць корму, да якога ўжо прызвычаілася жывёла, на іншы; 5) не паіць коняй з балота або з канавы, дзе вада бывае часам гнілая; 6) сьцерагчыся, каб не застудзіць каню чэрава; 7) не даваць занадта дробнае сечкі (сьсечанай драбней як на вяршок) і не пасыпаць мокрага корму жытняю мукою, бо ад гэтага ў жываце робіцца цеста, што і выклікае колікі.

---

## Абманы гандляроў коньмі.

У некаторых коняй бываюць вялікія і няпрыгожыя, так званыя асьлiныя вушы. Каб іх паменшыць, гандляры абразаюць краі, а шэрсьць расчэсваюць і разраўноўваюць.

Вісячыя альбо шырока растаўленыя вушы папраўляюць, і вырэзваючы кусок скуркі паміж вушэй, потым сшываюць яе. Пасьля гэтага вушы падымаюцца альбо зближаюцца і прымаюць нормальны від, але яны робяцца, нярухомымі, што адбіваецца на слуху каня. Пазнаць гэта лёгка па рубцы між вушэй.

Гэтай самай мэты гандляры дасягаюць яшчэ спэцыяльна зробленай аброцьцю, якая падпірае кончыкі вушэй. Часамі няпрыгожа растаўленыя вушы, проста сьцягваюць дроцікам.

Грыву таксама падрабляюць: робяць курчаваю, падстрыгаюць, па троху вырываюць, жадаючы зрабіць каня харашэйшым альбо падагнаць пад якую-небудзь пароду.

Хвост падразаюць, каб больш выдаваўся круп і конь здаваўся-б здаравейшым.

Бываюць такія здарэньні, што ў коняй з хранічнымі хваробамі стаіць лахматая шэрсьць, тады гандляры змываюць яе цёплаю вадою з мылам і змазваюць расьліным маслам. Значыць, і на шэрсьць трэба зьвяртаць увагу.

Рост каня таксама падрабляюць, дзеля гэтага коняй куюць тоўстымі падковамі на высокіх шыпах, задзіраюць каню высока галаву і шыю, стараюцца ставіць перад вышэй зада, а з боку ставяць малога і шчуплага каня.

Муштроўкаю гандляры робяць старых і вялых коняй вясёлымі.

Калі здараецца гандляру прадаваць каня з адвіслым сьвіным жыватом, дык ён прадае яго галодным і няпоеным, як гэта будзе кабыла, дык ён называе яе жарэбнай.

Тонкіх-жа і падгалістых коняй напярэдні прадажы шмат кормяць, пояць салёнаю аўсянаю баўтухаю, кормяць нават печаным хлебам і прыбаўляюць серку, вапну, соль.

У коняй, якія слабы на пярэднія ногі, часта бываюць зьбітыя калені і месца раны зарастаюць белаю шэрсьцю; тады гандляры тлумачаць гэта звычайным ударам. Пры казінцы (выгіб кален уперад — вялікі парок), які сьведчыць аб слабасьці ног, муштруе каня, не дае яму спакойна стаяць. Але казінец лёгка пазнаць у каня пасьля праездкі, тады ногі яго будуць абавязкова дрыгаць.

Макрэц — гэта хвароба, пры якой загніваецца задняя частка бабкі. Але гандляры і гэта ўмеюць падрабіць: ня стрыгуць шчотак, вопухаль зьмягчаюць жырам, струпы зьдзіраюць і больку прыпальваюць квасцамі, а сьлед тлумачаць тым, што конь повадам сьцёр.

Сьвішч (запаленьне храстка ў сярэдзіне капыта) таксама хаваюць, а дзірку, праз якую ідзе бруд, замазваюць воскам; кульганьне ж тлумачаць закоўкаю.

Пры загніваньні стрэлкі капыта (цяжкая і трудна лячымая хвароба) гандляры таксама ня тужаць. Яны куюць такога каня падковамі з доўгімі шыпамі, а стрэлкі замазваюць гразьзю, дабавіўшы туды чаго-небудзь пахучага, каб ня чутно было смуроду.

Вось тыя кароткія веды, якія павінен памятаць кожны селянін пры куплі каня ў гандляроў.

**М Сянчук.**

# Парады аграноме.

**Пытаньне.** Да якога веку карысна дзяржаць курыцу?

**А. Саколік.**

**Адказ.** Практыка гадоўлі курэй паказала, што дзяржаць курыцу больш 3-х гадоў ня варта.

Курыца мае каля 600 яечнікаў, з якіх у працягу першых двох гадоў яна нясе прыблізна 2/3 часткі ўсіх яечнікаў, а 1/3 — у працягу далейшага жыцьця.

Дзяржаць курыцу больш 3 — 4 гадоў ніколі ня варта, век нашых прастых курэй можна скараціць да 2 гадоў.

**Пытаньне.** Як вылячыць насос у каня?

**Язэп Філіпчык.**

**Адказ.** Сам па сябе насос ня ёсьць хвароба, але зьяўляецца вынікам хваробы жывёлы на жывот, як, напрыклад, пры катару жывата і кішак у каня. Насос перашкаджае жывёле добра пераасоўваць корм, ад чаго апошні ня правільна пераграўліваецца.

Лячэньне насосу трэба пачынаць не з праколаў яго, як заўсёды робяць нашы канавалы на вёсцы, а з лячэньня жывата. Каню з насосам даюць 1 фун. глаўбэрскай солі, а потым цераз некалькі дзён карлсбадзкае солі па дзьве лыжкі два разы ў дзень. Адначасна карысна націраць паднябеньне сольлю, ад якой конь меле ў роце языком і тым яго расьцярае. Карміць такога каня раіцца мяккім сенам з пойлам і час-ад часу змазваць паднябеньне іодам.

**Пытаньне.** Што трэба рабіць, калі буйна зрасьце рунь жыта? У нас гэтакую рунь спасваюць жывёлай, а я чуў. што лепш яе касіць. Як адзін, так і другі спосаб адбіваецца на росьце жыта?

**Антон Новік.**

**Адказ.** Глядзі ў гэтым нумару артыкул „Шкоднасьць спасваньня руні жывёлай“.

**Пытаньне.** Ня гледзячы на тое, што я цераз 2 гады на трэці кладу на поле гной, але кожны раз збожжа глушыць дзікая трава, як мятліца, пырнік і інш. Парадзьце, ці ёсьць хутка-дзеючы спосаб змагацца з сярнякамі на полі.

**М. Буренік.**

**Адказ.** Змагацца з сярнякамі — праца марудная і клапатлівая. Спэцыяльных спосабаў, пры дапамозе якіх можна было-б хутка зьнішчыць сарнякі на полі—амаль што няма, Насеньне дзікіх траў заносіцца на ніву з суседніх межаў, сенажацяў, ветрам, а больш усяго яны вывозяцца з гноем

і насенным матэрыялам у часе сяўбы. Правільная апрацоўка ральлі, скіраваная на ўтрудненьне разьвіцьцю сарні. коў у-працягу некалькі гадоў—ёсьць адзіны і найпэўнейшы спосаб змаганьня з сарнякамі. Пры гэтым трэба сачыць, каб усе ўзьмешкі навакол былі ўзораны, або да цьвяценьня траў скошаны. Насённы матэрыял культурных расьлін абавязкова добра ачышчаны на пушаках і веялках. У вашым выпадку трэба поле ваннаваць і калі яно мокрае — дрэнаваць.

Вось, калі вы будзеце гэтыя рады выконваць, у вас з кожвым годам сарнякі будуць прападаць.

Як змагацца з сярнікамі— рыхтуем спэцыяльны артыкул, які будзе зьмяшчан на старонках „Сахі“.

**Пытаньне.** Я думаю завясьці раньнія сарты бульбы. Парадзьце, якія найлепш у нас удаюцца?

**В. Юрашчык.**

**Адказ.** З ўсіх сартоў бульбы, якіх налічваецца многа, для ўмоў Беларусі, як гэта паказалі Менскія дасьледчыя станцыі, будуць наступныя:

1) Раньні ружовы. Ён мае буйныя яйкавідныя бульбіны, бледна-ружовую скурку, белае мяса, шмат няглыбока сядзячых вочак. Каліўе сярэдней велічыні. Высьпявае ў другой палове ліпеня. Для захаваньнв ня трывалы.

2) Скарасьпеўка жоўтая і белая. Бульбіны круглаватыя з дробнымі вочкамі. Перахоўваецца трохі лепш за раньні ружовы, але лічыць трывалым нельга.

# Сельска-гаспадарчая хроніка.

## Новае распараджэньне Прэзыдэнта аб камасацыі.

Новае распараджэньне Прэзыдэнта Рэспублікі прадугледжвае на дарэзку зямлі малазямельным гаспадаром шляхам парцэляцыі дваровых абшараў. Дарэзка гэта будзе адбывацца толькі камасаваным гаспадаркам. Павятовы земскі камісар павінен падаваць акружнаму земскаму ўраду праект на дарэзку зямлі з бліжэйшых дзяржаўных зямель, альбо з дваровых, згодна з законам аб зямельнай рэформе.

Дзяржава мае звольніць камасаваныя гаспадаркі ад аплатаў і іншых цяжараў, што мае пакрыцца дзяржаўным фондам.

Беларускі селянін павінен скарыстаць з гэтага распа-

раджэньня, карыстаючыся правам пяршэнства на дарэзку пры парцэляцыі абшарніцкіх двароў.

## Забарона вывазу жыта за граніцу.

Рада Міністраў забараніла вывазіць жыта заграніцу аж да новай жатвы, вызначаючы вывазное мыта (пошліну) 15 зал. за 100 кіл. жыта.

Але могуць быць выпадкі для некаторых адзінак, што Дзяржаўны Рольны Банк можа на час звольніць ад пошліны.

---



Выдавец: сэн. УЛАСАЎ. Рэдактар У. ПАВАЛКОВІЧ